Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп

№ 28. Вільня, Нядзеля, 17-га жніўня 1924 г. Год I.

## Ад Цантральнага Сэкрэтарыяту Беларускага Пасольскага Клюбу.

Гэтым падаецца да ведама беларускага насяленьня Польшчы, што ў працягу жніўня і верасьня Цантральны Сэкрэтарыят Беларускага Пасольскага Клюбу месьціцца ў Вільні—пры вул. Віленскай, у доме № 12, кв. 6.

Прыймо інтэрэсантаў адбываецца што дня, апрача нядзелі, ў 12—2 гадз. папалудні.

Апроч таго падаем адрасы паслоў і сэнатараў—на час летніх вакацыяў:

1. Прэзэс Клюбу: Pos. B. Rogula, poczta Nowogródek, wieś Aczukiewicze, gm. Lubcza.
2. Pos. B. Taraszkiewicz, Wilno, Wileńska 12—7.
3. Pos. F. Jaremicz, poczta Tereszki, pow. Wołkow., wieś Dalowce.
4. Pos. M. Kochanowicz—Wilno, Dzielna, 14.
5. Pos. A. Owsianik—p. Ilja, pow. Wilejski, wieś Kobyle, gm. Olkowicze.
6. Pos. Rak-Michajłowski—Wilno, Ostrobramska, 7, m. 10.
7. Pos. ks. Stankiewicz—Wilno, pleb. kościoła św. Mikołaja.
8. Pos. Miotła—poczta Dzisna, wieś Kuchcince, gm. Mikołajew.
9. Pos. Wołoszyn—p. Krynki, pow. Grodzieński, wieś Horkawicze.
10. Senator W. Bohdanowicz—Wilno, Ostrobramska, 9.
11. Senator Nazarewski—m. Baranowicze, ul. Narutowicza, 66.
12. Senator A. Własow—Radoszkowicze, pow. Wilejski.

Усякую карэспандэнцыю паслам і сэнатарам па пошце і тэлеграфу просімо кіраваць на вышэй паданыя адрасы.

Усю карэспандэнцыю на імя Беларускага Клюбу просіма высылаць на гэты час (жнівень і верасень) на адрас пасла Тарашкевіча.—Pos. Taraszkewicz, Wilno Wileńska, 12, m. 7.

## Скандальнае пасрэдніцтва.

У апошнім нумары мы пісалі, што польскі ўрад нічога ня робе дзеля таго, каб стварыць магчымасьць зьдзейсьненьня закону аб урадаваньні ў беларускай мове. Мы адзначалі, што ўрад ня мае сярод сваіх урадоўцаў (пераважна навезеных да нас з Галічыны) даволі працаўнікоў, якія ведалі-бы беларускую мову,—дый не клапоціцца знайсьці іх.

У апошнім мы памыліліся. Адначасна з выпускам нашае газэту мы прачыталі абвестку—пэўне-ж урадовую, што „патрэбны 40 чалавек працаўнікоў беларусаў для заняцьця розных канцэлярскіх пасадаў“.

Але той спосаб, пры помачы якога набіраюцца гэтыя працаўнікі, настолькі *дзікі*, што мо' лепей было-бы запраўды нічога не рабіць. чым рабіць так, як гэта робіцца ў Вільні.

У сказанай абвестцы, надрукаванай у газэце „Грамадзкі Голас“, гаворыцца, што запіс кандыдатаў прыймаецца ў канцэляры „Беларускага Грамадзянскага Сабраньня“. Што-ж гэта за такі *асаблівы пасрэднік*, якому дадзена права прадстаўляць уладзе будучых працаўнікоў для розных урадовых установаў?

Ужо той факт, што так-званае „Грамадзянскае Сабраньне“—гэта картовы клюб, ці, кажучы папросту, *шулерня*, выклікае паважнае недаўменьне... Ну, ды гэта справа „густу“ нашай віленскай адміністрацыі. Але ў гэтым прыпадку ёсьць і нешта горшае за шулерню: у „Грамадзянскім Сабраньні“ — зьвілі сабе *гняздо яўныя, усім ведамыя угалоўныя праступнікі*!

Вось галоўныя „дзеячы“ гэтае арганізацыі, якой даручаны набор дзяржаўных працаўнікоў:

Прэзэс рады старшынь „Грамадзянскага Сабраньня“—*Станіслаў Валэйша*. За крымінальныя праступленьні двойчы засуджаны судом у вастрог і пазбаўлены грамадзянскіх правоў. Апошні працэс адбыўся ў Вільні ў 1912 годзе. Валэйша засуджаны на 4 гады за атрыманьне грошы з казначэйства па падробленай асыгноўцы, украдзенай з урадовай установы....

Старшыня *Уладыслаў Знамяроўскі*. Справа яго знаходзіцца ў віленскай пракуратуры, калі не „затушана“ па дарозе. Гэты „дзеяч“ надужыў даверыя аднаго старога чалавека, каб пад відам спаганяньня доўгу пазбавіць яго маемасьці, карыстаючыся адсутнасьцяй ягонага сына і благімі адносінамі між ім і бацькам. Калі-ж сын вярнуўся з войска (польскага) і пачаў проці Знамяроўскага судовы працэс, дык Знамяроўскі падкінуў яму нейкія выбуховыя матар'ялы і данёс на яго, як на „тэрарыста“, у паліцыю. Аднак, сьледзтва выясьніла факт правакацыі, Знамяроўскі быў арыштаваны. Пасьля выхаду з вастрогу Знамяроўскі стаўся чынным супрацоўнікам Валэйшы ...

„Спэц“ ад літаратурных спраў — *Макар Косьцевіч*. Меў некалькі „недаразуменьняў“ у грашовых справах з беларускімі грамадзкімі арганізацыямі. Служыў у Вільні ў „Kasie Chorych“, скуль выдалены за прысваеньне і растрату грошы гэтае установы. Атрымаў „пачэсную“ прапазіцыю ад Валэйшы рэдагаваць „палянафільскую“ газэту ў беларускай мове, але ад гэтага сьпярша адмовіўся. Беспасярэдна пасьля гэтага быў арыштаваны — напярэдадні 1 мая г. г., як „камуніст“. Па „вызваленьні“ з вастрогу ўвайшоў у лічбу супрацоўнікаў Валэйшы....

Мо' гэтага сьпісу і даволі дзеля характарыстыкі людзей, якім даручана вярбоўка для ўлады працаўнікоў?

І нельга сказаць, што віленская адміністрацыя магла „няведаць“, з кім яна мае дзела: усе апісаныя „гастролі“ памянёных „дзеячоў“ адбываліся ў Вільні — у апошнія гады, за ўрадаваньня Дэлегата Ураду, п. Рамана (—апрача справы Валэйшы з 1912 году).

Мы не адкрывалі публічна заслоны над усенькім гэтым брудам, пакуль „Грамадзянскае Сабраньне“ займалася толькі гульнёй у карты. Але цяпер, калі гэтая арганізацыя становіцца на месца *пасрэдніка паміж насяленьнем і адміністацыяй*, калі яна, як намі устаноўлена, *дае сваю „апінію“ паліцыі аб беларускіх дзеячох* пры устанаўленьні іх „абыватэльства“, і на моцы такое „апініі“ іх пазбаўляюць гэтага „абыватэльства“, — мы даўжэй маўчаць ня можам.

Паўтараем: усе пададзеныя факты—агульна вядомыя, і ўлада і грамадзянства могуць іх вельмі лёгка дакумантальна праверыць.... А вынікі „пасрэдніцтва“ арганізацыі Валэйшы лёгка прадбачыць! І тым больш дзіўным выдаецца паступаньне віленскае адміністрацыі: няўжо-ж ей мала было кампраміцацыі з „асьпірантам“ Котарбінскім, з вялейскай і сьвянцянскай бандыцкімі арганізацыямі сярод паліцыянтаў?!

Беларускае грамадзянства адказнасьці за стаўленікаў Валэйшы і К⁰ на сябе ніколі ня возьме.

## Праз галовы нашых паслоў.

У партыі ППС, якая прадстаўляе дзіўную мешаніну дзікога польскага нацыяналізму з лёзунгамі (праўда, падазроннае шчырасьці!) аб „работніцка-сялянскай уладзе“, ёсьць цэлы рад людзей — старых ідэйных партыйных працаўнікоў, якіх партыя выпускае на трыбуну, калі трэба паказаць грамадзянству яе лепшы бок. Да такіх належыць стары, заслужоны сацыялістычны работнік — шчыры *ідэаліст*, сэнатар Ліманоўскі. Але да практычнай дзейнасьці, да праводжаньня ў жыцьцё ўкрытых (хоць і даволі відочных!) нацыяналістычных імкненьняў партыі істнуюць дзесяткі *„рэальных“* палітыкаў. Гэтыя і робяць запраўдную палітычную работу ППС.

25-га ліпеня ў польскім Сэнаце разглядаліся перададзеныя з Сойму законапраэкты аб мовах „меншасьцяў“. Ад імя пэпэсаў выступіў сэнатар Ліманоўскі, які міласьціва згаджаўся прызнаць беларусаў за народ.

„У сучасны мамэнт у грамадзянскай думцы“ — гаварыў пан сэнатар — „ёсьць тэндэнцыя ўвайсьці ў паразуменьне з украінцамі, але гэта не датычыць беларусаў. Пануе пагляд, што яны яшчэ ня выпрацаваліся ў нацыянальным сэнсе, і нават „Przegląd Polityczny“ высказаўся, што было-б абмылкаю судзіць наперад аб тым, якою будзе нацыянальнасьць беларускіх крэсаў(?!). Права судзіць аб прыналежнасьці да тае ці іншае нацыянальнасьці належыць толькі данай асобе. Беларусы маюць свае пісьменства, літаратуру і паэтаў; пісьменства іх ня меншае за эстонскае. Беларуская рэспубліка ў Бальшэвіі мела моцны ўплыў на беларусаў. Рэкамандую паном кніжку Сьцяпана Стажыньскага аб нацыянальным пытаньні ў Радавай Расеі. Аўтар яе сьведчыць аб вялізных здабычах языковых правоў у Радавай Расеі...

„Праграма нашай партыі дамагаецца самастойнасьці і самаўраду для ўсіх грамадзянскіх адзінак, а тым самым і для народаў. Цяпер мы маем справу і з беларускім народам, з якога выйшлі Касьцюшка, Міцкевіч і Юзафат Агрызка, адзін з духоўных праваднікоў думкі паўстаньня, выбухнуўшага потым у 1863 годзе, далей Арцём Вэрыга, паэт перакладчык „Пана Тадэуша“ на беларускую мову, Кастусь Каліноўскі, які ў 1863 г. (фактычна ў 1864 г. — папраўка рэд.) загінуў на шыбеніцы. Гэта-ж з беларусаў выйшаў дзед Юзэфа Пілсудскага, памёршы ў маскоўскай турме. **З гэтым народам нам найлягчэй дайсьці да паразуменьня, але трэба пастапаць шчыра, адкрыта, бяз ашуканства**“.

Як-жа *на дзеле* ППС праводзіць апошнія словы сэн. Ліманоўскага? Адказ на гэта, — не ўспамінаючы ўжо аб агіднай ролі лідэра партыі п. Дашыньскага, які, *ня пытаючыся аб волі нашага народу*, рэзаў у Рызе нашу Бацькаўшчыну на кускі, — даў на адным з апошніх паседжаньняў Сойму прадстаўнік ППС, пас. Недзялковскі, які, як ведама, узгадаваўся на віленскім грунце. Вось-жа гэты пан, таксама гаворачы аб „паразуменьні“ з беларускім народам, зусім адкрыта заявіў, што польскія „сацыялісты“ маняцца дайсьці да такога паразуменьне... **„цераз галовы беларускіх дэпутатаў“**.

З кім-жа і як зьбіраюцца пэпэсы „паразумевацца“, калі яны **не прызнаюць афіцыяльнага беларускага ўсенароднага прадстаўніцва**, выбранага нашым народам паводле ўсіх правілаў „найдэмакратычнейшага“ польскага выбарнага права? Можа з гмінным самаўрадамі, якія **ня істнуюць**, бо падменены войтамі-палякамі, якіх назначаюць старасты, і такім-жа спосабам створанымі „гміннымі радамі“ — па назначэньню?! Можа з чыста польскімі „соймікамі“, таксама

складзенымі з выбранцаў.... старастаў? А можа проста з „Янкамі ды Сымонкамі“, якіх, аднак, каля трох міліёнаў, так што з кожным асобна і за дзесяць гадоў не дагаворышся?

Але паны пэпэсы, узышоўшы на шлях непрызнаваньня выбарнага ўсенароднага беларускага прадстаўніцтва, ня толькі выяўляюць сваё імкненьне паступаць **і ня шчыра, і не адкрыта, і з ашуканствам**, але йшчэ стаўляюць пад пытаньнем і сваё ўласнае права прамаўляць ад імя польскага народу. Запраўды, чым жа іх мандаты „лепшыя“ за мандаты беларускіх паслоў?!...

**Ів. Мялешка.**

# Палітычныя падзеі.

### „Рэванш“ за апраўданьне работнікаў.

Мы памятаем, што кракаўскі пракурор, эндэк Сазаньскі, папаў пад суд за націсканьне на сумленьне прысяжных, каб сарвалі працэс — дзеля стварэньня новага „эндэцкага“ складу прысяжных, якія-б напэўна засудзілі работнікаў.

Ня толькі ўся эндэцыя, але, зразумела, і „партыйная справядлівасьць“ у Польшчы пачуліся вельмі пакрыўджанымі гэтым запраўды нячуваным фактам.

Вось цяпер „Dz. Wil.“ з трыумфам падае вестку аб тым, што пацярпеўшая старана здалела зрабіць „рэванш“.—У Кракаве толькі што зрабіла сэнсацыю арыштаваньне аднаго з абаронцаў на тым самым працэсе, адв. Шнільдынга, які абвінавачываецца таксама ў націсканьні на сумленьне прысяжных, але быццам з помачай подкупу... Быццам апраўдальны прысуд прысяжных у справе кракаўскіх разрухаў быў „куплены за грошы“.

Калі-б гэта была праўда, дык зьявілася-б моцнай падставай да касацыі прысуду і перагляду ўсей справы нанова. Гэтага, як мы ведаем, і дабіваўся прак. Сазаньскі. Адначасна кракаўскія эндэцкія газэты падаюць падробнасьці аб тым, як старанна пракуратура вышуківае чым больш повадаў дзеля касацыі прысуду.

Можа ў Найвышэйшым Судзе гэта і ўдасца...

### Прысуд „разьемчага суду“ ў справе канфлікту на Сьлёнску.

Прысуд надзвычайнага мяшанага суду ў справе канфлікту паміж работнікамі і прамыслоўцамі пастанаўляе захаваць той самы парадак, які ўстанавіў загад міністра працы, з дапаўненьнем прамыслоўцаў: гутнікі павінны будуць працаваць 10 гадзін за тую самую плату, якую атрымлівалі перад тым за 8-гадзінны дзень працы... Іншых галінаў працы (вуглякопаў і інш.) павялічэньне дня працы не абыймае.

### Паліцыя б'ець безработных.

З Катавіц наказуюць, што 14 жніўня, у чацьвер, у капальні графа Ляўры тысячная грамада безработных, не атрымаўшы нявыплачаных дагэтуль грошы за месяц ліпень, уварвалася на падворак, пагражаючы дырэктару капальні. Выкліканая апошнім паліцыя атакавала работнікаў. Многа пацярпеўшых.

### Кара сьмерці ў Лодзі.

У Лодзі па прысуду даразнага суда сказьнілі нейкага Пёнткавага, які, уцякаючы пры арышце, страляў у паліцыянтаў і раніў аднаго з іх.

### Абураючае хуліганства.

Вялікае абурэньне выклікала ў Польшчы гэткае здарэньне на станцыі чэскага места Прэворова. Калі праз гэтую станцыю праяжджалі польскія дэлегаты кангрэсу ў справе злучэньня цэркваў, дык да аднаго з іх, агульна-паважанага архіяп. Роппа, падыйшоў чэх-чыгуншчык і, ухапіўшы яго за бараду, пачаў моцна трэсьці...

Быў тут-жа сьпісаны пратакол. Чыгуншчык звольнены са службы. Чэскі ўрад перапрасіў пацярпеўшага.

Агульнае абурэньне вельмі зразумела, але наймепш права на яго маюць уплывовыя клерыкальныя кругі ў Польшчы, якія, здаецца, ня толькі ў свой час не паднялі голасу якраз проці таго самага „цяганьня“ за бароды жыдоўскіх рабінаў, ды нават—абразаньня і вырываньня іх, але і самі прыймалі маральнае ўчасьце у „цяганьні за бароды“ праваслаўных япіскапаў. Дый што там казаць аб барадах—калі „трэсьлі“ цэлымі жывымі япіскапамі, кідаючы імі, як хацелі...

### Арышт полькі ў Менску.

Роста падае, што Беларускі Дзяржаўны Палітычны Аддзел арыштаваў у Менску працаўнічку Польскага Генаральнага Консульства, Кудзіньскую, у якой знойдзены важныя тайныя дакумэнты. У прысутнасьці прадстаўніка Народнага Камісарыяту Загран. Спраў і Польскага Консула арыштаваная пацьвярдзіла, што знойдзеныя ў яе дакумэнты належаць да яе і атрыманы быццам ад незнаёмай асобы. Пачата сьледзтва.

### Адказ ССРР у справе нападу на Стоўпцы.

Чычэрын прыслаў польскаму ўраду адказную ноту ў справе нападу на Стоўпцы. У сваім адказе Чычэрын піша, што ўрад ССРР правядзе сьледзтва ў справе нападу і аб яго выніках ўраз-жа павядоміць польскі ўрад.

### Радавая прэса аб нападзе на Стоўпцы.

Радавая прэса вельмі востра палемізуе з заявамі польскай ноты і польскай прэсы ў справе нападу на Стоўпцы.

Яна катэгарычна адкідае ўсе закіды ў тым, быццам „дывэрсыйныя банды“ складаюцца, рыхтуюцца і ўзбраіваюцца ў Менску. Яна даводзіць, што гэтыя напады выклікаюцца стыхійным рухам адчаяўшыхся пад польскім уціскам беларускіх сялян, якія з усіх сілаў вядуць барацьбу проці самавольства паліцыі і ваенных уладаў на „Крэсах“.

„Dz. Wil.“.

### Прамова Троцкага.

„Усх. Аг.“ падае, што Троцкі на адным з ахвіцэрскіх мітынгаў сказаў прамову, у якой адзначыў „няпэўнасьць і нясталасьць сучасных граніцаў ССРР“. Над імі вісіць пагроза з боку ваяўнічых суседзяў, перадусім Польшчы і Румыніі. Гэтая пагроза вымагае, каб, як і дагэтуль, чырвоная армія была „першай задачай і першай гордасьцю ССРР“.

### Збраеньні ССРР.

Латвійскія газэты падаюць весткі аб тым, як адбудоўвае сваю ваенную моц Радавая Расея.

ССРР зьяўляецца аднэй з дзяржаў, якія маюць найвялікшую ваенную літэратуру. Найвыдатнейшыя загранічныя творы ў гэтай галіне хутка перакладаюцца на расейскую і інш. мовы і раздаюцца ахвіцэрам. Вялікую увагу зварачае ССРР на ваенна-хімічную прамысловасьць і авіацыю. У Смаленску працуе найвялікшая ў Расеі фабрыка аэрапланаў Юнкера, якая была зачынена ў Нямеччыне на моцы Вэрсальскага Трактату... Шмат аружжа выробляе для ССРР заграніца, і ня толькі Немеччына, але і Англія, Італія, Швэцыя і інш.

### Справа Карсу.

Радавы ўрад зьвярнуўся да турэцкага ўраду ў нотай, у якой вельмі станоўча дамагаецца звароту з грацягу 3 месяцаў крэпасьці Карс, якая была захоплена ў часе слабасьці ССРР туркамі.

Дзіва, што турэцкі ваенны міністар выслаў „місію“ ў Румынію і Польшчу!...

### С.С.Р.Р. і Галяндыя.

Неафіцыяльна ўжо пачаты перагаворы аб узнаўленьні адносінаў паміж Галяндыяй і С.С.Р.Р.

### Радіч у Югаславіі.

Радіч на паседжаньні сваей партыі зрабіў справаздачу аб сваей падарожы ў Англію і Расею. Ён адзначыў, што яго мэтай было пазнаёміць загранічных палітычных дзеячоў з адносінамі паміж Харвацыяй і Сэрбіяй. Ён заявіў, што ў Маскве ён дабіўся таго, што на выпадак абвешчаньня рэвалюцыйным способам незалежнасьці Харвацкай Рэспублікі — ССРР ўраз-жа прызнае новы харвацкі ўрад. Аб новым Югаслаўскім урадзе—дэмакратычным — Радіч выказаўся вельмі скептычна...

### На „чорным кангрэсе“.

У Нью-Іорку на кангрэсе нэграў зрабіўся раскол. Урад Рэспублікі Лібэрыі (ў Афрыцы) катэгарычна адмовіўся дазволіць імміграцыю туды (масавы ўезд) нэграў з Амэрыкі.

Прынята рэзалюцыя, выражаючая пратэст проці лібэрыйцаў. Старшыня кангрэсу заявіў, што цэнтрам фармаваньня нэгрскай дзяржавы будзе выбрана Абісінія (ў Афрыцы).

## Лёндонская Канфэрэнцыя.

### Драматычны мамэнт.

Дагэтуль яшчэ па-за Канфэрэнцыяй ідзе змаганьне нямецкіх дэлегатаў з франка-бэльгійскімі аб галоўнай справе—зьняцьці акупацыі Руры.

Немцы катэгарычна трэбуюць, каб французы і бэльгійцы згадзіліся зьняць акупацыю да 1-га студзеня 1925 г. і ўва ўсякім прыпадку не пазьней 1-га красавіка.

# „COR ARDENS“.

**К. Сваяк. „Мая Ліра“.** Беларускае Выдавецкае Таварыства. Вільня—1924 г.

(Глядзі № 27 „Сына Беларуса“).

II.

З усяго таго, што сказана намі аб аснаўной рысе натуры паэта, зусім бязспрэчна выцякае яго *цераз меру павялічаная, ці ўзвышаная, духовасьць*, —наагул, шкодная для паэзіі з чыста мастацкага боку.

Запраўдны патос паэзіі Сваяка — *рэлігійны*, але ня ў нашым значэньні гэтага слова, — не ў пачуцьці моцнай арганічнай *біалягічнай сувязі* з Прыродай і Сусьветам, але якраз наадварот: у сталым пачуцьці страху і пагрозы *разрыву* гэтай сувязі.

На помач проці гэтага разрыву, ці да яго аблягчэньня паэт заўсёды і кліча Бога.

Яго „Ліра“—запраўдны малітвенік да гэтага Бога, якога відзіць ён тым ярчэй і чуе тым мацней, чым сам сябе пачувае ад Яго далейшым.

Самапачуцьцё Сваяка—запраўдна - *хрісьціянскае*.

Гэта — тое самае Бога-,сьвета-,народа-,самапачуцьцё, якое найляпей выражана ў знамянітай формуле: „веру, Божа, але... памажы майму нявер'ю“... Гэтае сьвета-пачуцьцё амаль ня роўна адчувае, як сілу і ласку Божую, таксама і моц „зьдзеку чартоў“.

Першы аддзел „Ліры“ якраз і ахвяраваны *пачуцьцю Бога*,—гэтаму *галоўнаму патосу паэта*.

Вельмі характэрны ў гэтым сэнсе верш „Ад Te levavi“:

„Узнашу я вочы ў неба да Бога
„І як служэбнік на Яго ўзіраю, —
„Ён абароніць мяне ад благога,
„Бо міласэрдзя ад Яго чакаю.

„О Божа, Божа, спашлі зьміласаваньне
„Над Тваім людам, што поўны надзеі, —
„Бо ўжо-ж ён просіць даўно змартвыхстаньня
„Каб выйсьці з грэху і крыўды няволі.

„Чужынец люд Твой аддаў на пакусу,
„Каб з яго сэрца выгнаць цябе, Божа.
„Хай кроў бязьвінных, да грэху прымусы
„Пабудзяць гнеў Твой на народ варожы.

„Збудзі, о Божа, люд Твой паднявольны
„На труд свабодны, на ласку спакою,
„Узглянь на ягоны лёс цяжкі мазольны,
„На хлеб мяшаны з горкаю сьлязою.

„Устань, о Божа,—зорам сваей моцы
„Сакруш нячыстых працу рук паганых,
„Абагаслаў свой бедны люд рабочы,
„Як маці кволых дзетак мілаваных“.

Вельмі характэрна ў гэтым вершу гэтае адыходзячае ў мінуўшчыну пачуцьцё ўласнага бязсільля нашага народу „паднявольнага“, „кволага“, быццам засуджанага на доўгі век на „горкія сьлёзы“ бязсільля перад „варожым народам“, якога ён сам быццам ня мае сілаў „сакрушыць нячыстую працу рук паганых“...

У кожным разе трэба сказаць далікатна, што характво гэтага вершу так сказаць „дарэвалюцыйнае“, бо пасьля рэвалюцыі казаць народнаму песьняру аб тым, што народ „даўно *просіць* змартвыхустаньня“—неяк анахранічна...

Дзьве „Песьні на псальмы“—130 і 62 — таксама вельмі характэрны для паэта — „служэбніка“ Бога.

Паэт проста кажа нам, дзе ён *шукае* таго, чаго мала *чуе ў сябе* ўнутры, бо — гэтага Бога ў Прыродзе.

„Ледзь толькі блісьне на небе зарніца,
„Дух мой, о Божа, на Цябе чакае,
„Душа жадае, як дожджу травіца,
„І цела з стогнам да Цябе ўздыхае.

„У сухой зямельцы бязводнай і труднай,
„Залітай жагай палуднага сонца,
„Цябе шукаю у дарозе блуднай,
„Да Твайго ўпоньня сумую бяз конца

— — — — — — — — —

„І бедну душу маю ажыўляе
„Поўнасьць прастворaў гвезднага космосу,
„*Цуднай мэлёдыі голас мой шукае*,
„*Каб заняці гімн Творчаму Лёсу*“...

Як бачым, паэт вельмі добра чуе і ведае сілу і значэньне таго, што ён вельмі пекна і запраўды не па царкоўнаму, але *па своему* называе „*Творчым Лёсам*“, ад якога, як ад запраўднага Бога-Тварца сьвету, ідзе пранікаючы ўсю прыроду „голас цуднай мэлёдыі“...

Але якраз трэба паэту гэтай мэлёдыі ўсюдых у „прастворах“ *шукаць* тады, калі сам ён мае яе ў сябе замала...

У пекным, але таксама заражоным хворай пасыўнасьцяй вершу „Шчасьце“, паэт кажа аб тым, чаго каму *трэба даць* да шчасьця. Ня кажа толькі аб тым, што шчасьце—толькі тады запраўднае шчасьце, калі яно не „даецца“, але бярэцца і выкоўваецца кожным кавалём сабе ўласнымі сіламі.

„Для ўсіх жа людцаў, гдзе ёсьць іх колькі,
„Аднаго трэба на сьвеце толькі, —
„Без чаго сьвет наш—блудна дарога:
„Усім для шчасьця патрэба Бога“.

Так канчае паэт.

Як можна было спадзявацца, тая рэлігійна-„*служэбная*“ роля, якую гэты паэт—„служэбнік Бога“ адводзіць паэзіі, часта ператварае яго рэлігійна-паэтычнае натхненьне ў чыста *маральны патос* ксяндза-казнадзеі. Тады творы паэта робяцца папросту вершаваным казаньнем з амбоны. — Тыповым прыкладам такога запраўднага, вельмі мудрага і дабітнага казаньня зьяўляецца верш „З кнігі мудрасьці“. — Верш складаецца з раду маральных афарызмаў і парадаў... парафіянам!

Ня можна адкідаць гэтага роду творчасьці, калі ў гэтых парадах сьвяшчэньніка-маралiста ёсьць запраўды, як гэта мы павінны сцьвярдзіць у Сваяка, цэнны зьмест дасьледу, розуму і пэўнага ідэалізму.—Ня можна толькі залічыць гэтыя казаньні да паэзіі...

Другі, падпарадкаваны першаму і, як мы бачылі, цесна, запраўды *арганічна* зьвязаны з першым—рэлігійным патосам паэзіі Сваяка, зьяўляецца *патос Бацькаўшчыны*...

Як першаму ахвяраваны першы аддзел кніжкі, так другому—аддзел другі. Можа правільней было-б назваць іх першай і другой струнамі яго

## Вадзяная энэргія Заходняй Беларусі.

Газэта „Dz. Wil.“ аблічыла тую энэргію, якую можна атрымаць пры належным выкарыстаньні Нёмна і яго прытокаў. Вынікі падлічэньняў даюць ніжэйшую цікавую табліцу:

| НАЗОЎ РАКІ: | Колькі можна здабыць конскіх сілаў энэргіі пры сярэдняй гадавой вадзе: | |
|---|---|---|
| | На усей рацэ: | У сярэднім на 1 клм.: |
| Нёман ад Лебяды да Шчары | 9461 | 338 |
| Нёман ад Сьвіслачы да Капры | 1577 | 263 |
| Нёман ад Чорнай Ганьчы да граніцы | 18400 | 440 |
| Усяго на Нёмне ў межах Польшчы | **61310** | **148** |
| На важнейшых прытоках на ўсей іх даўжыні: | | |
| Бярэзіна | 5505 | 36 |
| Сьвіслач | 3222 | 34 |
| Малчадка | 3478 | 47 |
| Шчара | 15479 | 57 |
| Зальвянка | 3162 | 25 |
| Чорная Ганьча | 3715 | 31 |
| Мэрачанка | 7361 | 45 |
| Вяльля | 71792 | 190 |
| Вялейка | 3414 | 53 |

## Весткі з вёскі.

### З Нясьвіскага павету.

(Грыцэвіцкай вол., вёска Бурачкі).

Ня можа быць ніякае спрэчкі аб тым, што, калі ў каго што баліць, так ён аб тым і гаворыць, крычыць, клапочыць, радзіцца з дактарамі, — адным словам, стараецца вылячыцца, вылязьці з бяды. Так яно ўсюды робіцца, але ня ў нас.

У нас на сьвятой Беларусі гэтага няма. І не дзеля таго, што ў нас ніколі ня бываець хваробы, альбо бяды; наадварот! У нас больш, чым дзе, ёсьць балячкі і балячкі крывавыя, але мы, ведаеце, ня хочам нарушаць запаведзі нашай пра-пра-пра-радзіцельніцы. Справа ў тым, што наша пра-пра-пра-бабка была вельмі поўная кабета з галаўнымі болямі і адышкай. Так вось, аднаго разу, адна з яе знахарак параіла ей абсалютны спакой і як можна больш спаць. З лёгкай рукі знахаркі яе рэцэпы аказаўся добры, і шчасьлівая пра-пра-пра-бабка ўміраючы дала яго сваей дочцы, а дачка сваей дочцы. Гэтак і пайшло з роду ў род.

Хаця гэты рэцэпт быў выключна ад галавы, але з вякамі людзі забыліся, ад чаго ён, і пачалі ўжываць ад усіх хвароб. Дзякуючы яму, мы праспалі шмат ужо вякаў. Сьпіць і наш дваццаты век. На зары нашага веку якінебудзь наш Міхась ці Пятрусь сьпіць пасьля абеду ў валенках і кажусе на печы і сьніць гэтакі сон: што быццам няма ні паноў, ніякае ўлады. Значыцца, ня трэба будзе езьдзіць у падводы, ня будзе ніякіх падаткаў. І сьніць ён далей, што навазіў ён повен двор дроў, навазіў дзерава на будову, пакрыў гумно, каторае стаяла пяць лет ня крытае, пастроіў новы дом, а сам у новых хромавых ботах і ў портках (галіфэ), у кашулі і жакетцы, стаіць ля вакна і глядзіць, як парабак запрагаець варанога жарабца, каб паехаць у госьці. Але тут чуець, як нехта цягне за рукаў і крычыць: „Міхась, а Міхась! уставай! ідзі на сход да Сымона, нясі грошы за зямлю!“ Ачухаўшыся зо-сну і ўбачыўшы, што ён не ўгасьцёх, а ляжыць на печы, крэхчучы і охкаючы, зьлез з печы і, вылаяўшы жонку, што не дала скончыцца цікаваму сну, пайшоў на сход.

Нешта падобнае, альбо блізка да таго, мы ўсе сьнім кожну ноч, а назаўтра расказываем адзін аднаму сваі цудоўныя сны. Пад абед пачынаем клясьці свае жыцьцё, увечары сходзімся на вячоркі й пачынаем спрэчкі і сваркі, пасьля йдзем дамоў і кладземся спаць.

Гэтак, брацьця сяляне, мы праводзім кожын дзень, усё свае жыцьцё.

Яно то і праўда, што калі прыглядзецца да нашага жыцьця, дык і пэўна трэба клясьці. Навокала сябе бачым адно толькі: гора, беднасьць, сьлёзы, беспрасьветную цемру, пустоту і гразь і гразь і гразь; ня жыцьцё, а пекла! Усё нашае сялянскае жыцьцё, пачынаючы з маленства і канчаючы магілай, — скрозь пакрыта цяжкай працай, горам і сьлязамі. Працуем, як валы, а што маем за гэта? Ануч добрых — і то няма. Усё сваё жыцьцё мы не зьядзім добра, ні адзенемся па людзку, ані добрай хаты, ані да хаты, ні скаціны — чад, смурод, грязь пакрываюць нас. Гразь у хаце, гразь на дварэ, у гумне, хляве, студні, гразі па калена на вуліцах нашых вёсак. Ды ня толькі гразь на нас і каля нас, гразь пакрываець і нашу душу. Бяз ліку спрэчкі, сваркі, плёткі, бойкі, няпрыятнасьці, грубасьць, зайдрасьць—падобна піяўкам ссуць нашу кроў.

Мы, брацьця сяляне, недалёка адыйшлі ад сваей пра-пра-пра-бабкі! Яна верыла ў розных ведзьмароў, знахароў, шаптуноў — і мы, што бы ні здарылася, кажам, што ўсё гэта ад нячыстай сілы, усё гэта зроблена ліхім чалавекам.

Уся наша вясковая жытка пераплецена гэтымі самымі ведзьмарамі, знахарамі, шаптунамі. Але гэта, так сказаць, наша ўнутраная хатняя жытка. Цяпер паглядзімо на сябе з другога боку.

Церпючы ад малазямельля, плоцячы непасільныя падаткі, пакутуючы ад таго, што мы нявучаныя, цёмныя і забітыя людзі, — мы прадстаўляем той матар'ял, каторым карыстаюцца другія дзеля розных мэтаў. Асабліва намі карыстаецца, як матар'ялам, мяйсцовая ўлада, якая добра ведае, што мужык „дурны“, пакуль зьбярэцца скардзіцца на розныя крыўды, то пройдзе шмат часу, і крыўда забудзецца. Гэта адно.

Другое — тое, што гаспадары на сваіх вузкіх шнурох, дзякуючы шахаўніцы, ня могуць завясьці ўсю навейшую сыстэму вядзеньня гаспадаркі. Вось, мы і дастаем з нашых дзялянак толькі тое, што неабходна для падтрыманьня нашага поўгалоднага жыцьця. Калі да гэтага дадаць нашае эканамічнае бязсільле, — тое, што мы свае прадукты з гаспадаркі: збожжа, масла, сыр, яйкі, аўчыны і інш., ня можам, як сьлед, прадаць, дык атрымаем увесь сумны малюнак нашага жыцьця. Тутака мы знаходзімся ў поўнай залежнасьці ад розных спэкулянтаў. Што захочуць, то і даюць за нашу працу, за наш хлеб.

Трэба ўжо нам зьлезьці з печы, ня спаць, не чакаць, пакуль нам начальства, ці хто іншы што-колечы зробіць. Чым стаяць на вуліцах, завадзіць сваркі і калупаць у носе, ляпей было-б, калі-б мы гаворылі аб сваей жытцы, як яе палепшыць, як вылячыць нашы балячкі. Мы сільны, але распыленыя, няма ў нас ніякай сувязі. Кожны з нас жыве, як яму ўздумаецца, і дбаець толькі аб сваім кутку. Калі венік зьвязан, то ім падмятуць хату чыста, а калі ён разсыпаўся, то як бы мы ні стараліся, хаты не падмяцём. У грамадзе сіла. Што ня зробім у адзіночку, то зробім грамадай.

Трэба нам больш самапэўнасьці, веры ў сябе і адвагі, а то наша палахлівасьць даходзіць да сьмешных анэкдотаў. Вядомы факцік, што, калі мы прыходзім, скажам, у сваю гміну за якім-небудзь дзелам, то мы раз патнаццаць падыйдзем і паглядзім у шчэлку ад замка, пакуль набярэмся духу і адчынім дзьверы.

Трэба ня траціць ані воднай гадзінкі, а энэргічна ўзяцца за паляпшэньне свайго жыцьця; трэба аб'яднацца, злучацца, прасіць і трэбаваць усюды, дзе толькі можна, сваіх законных чалавечых правоў; трэба вучыцца самім, вучыць сваіх дзяцей, трэба інтарасавацца жыцьцём не аднэй толькі сваей вёскі, а ўсім сьветам; дзеля гэтага трэба чытаць газэты, журналы, кнігі,—і няпрыкметна для сябе мы будзем разьвівацца, выходзіць з нашага пекла. Шмат хто з нас быў у сьвеце, былі ў Нямеччыне—культурнай старане; шмат чаго бачылі добрага і разумнага. Так хай-жа тыя, каторыя былі там і бачылі на свае вочы ўсю карысьць арганізованага,, упарадкаванага шляхам асьветы жыцьця, хоць крышку ўносяць таго, што бачылі, у сваё жыцьцё, і карысьць будзе адразу. Усе паадзінокія высілкі зьбяруцца ў стройнае культурнае будаўніцтва свайго жыцьця, а калі да гэтага далучыцца ўсё сялянства на чапе з сваей інтэлігенцыяў, каторая будзе кіраўніцай у нашым руху к асьвеце, к прагрэсу, то можна будзе мець надзею, што ў недалёкай будучыне і наша Беларусь пакрыецца цэлай сеткай школ, каапэратываў, крэдытных банчкоў, усялякіх культурных установаў, якія будуць пышным кветам расьці на карысьць усяго народу, усяго сялянства, і наша нядоля, наша беднасьць згіне, а яснае сонейка прыгрэе і беларускі народ!

Гэтак, брацьця сяляне, усе да працы!

**Кастусь бяз долі.**

## З УСХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

### Падзел месцаў у вышэйшых школах.

Устаноўлены лік месцаў для прыёму ў гэтым годзе студэнтаў у вышэйшыя школы БСРР:

**А) У Белар. Дзярж. Унівэрсытэце:**

а) мэдыцынскі факультэт—150 ч., б) пэдагагічны—300 ч.

**Б) У Менскім Інстытуце Сел.-Гасп.**

а) агранамічны факульт.—70 ч., б) лясны факультэт—100 ч.

**В) У Горацкім Сел.-Гасп. Інстытуце:**

а) агранамічны факультэт — 70 ч., б) зямлябудаўнічы факультэт—60 ч.

### Геалягічныя дасьледы Беларусі.

Рада Нар. Камісараў пастанавіла адпусьціць 6,000 руб. на далейшыя геалягічныя дасьледы Беларусі. Дасьледы вядуцца аднача сна дзьвюма экспэдыцыямі: адна пад кіраўніцтвам праф. Блюдухі—на Усходняй Беларусі, другая — пад кіраўніцтвам праф. Тарлецкага—ў Меншчыне. Абедзьве экспэдыцыі маюць усе неабходныя інструманты, што дапаможа паставіць увесь дасьлед на навуковы грунт.

Трэба адзначыць, што ніколі яшчэ геалягічныя дасьледы ў Беларусі не вяліся ў гэткім шырокім абхваце. Можна спадзявацца, што вынікі сёлетніх дасьледаў адчыняць шмат новых магчымасьцяў для разьвіцьця прамысловасьці і сельскае гаспадаркі Беларусі.

## Сельска-гаспадарскія парады.

### Што рабіць каб садовыя дрэўцы хутчэй разрасталіся.

Каб пасаджаныя маладыя садовыя дрэўцы (прышчэпы) хутчэй разрасталіся ў таўшчыню, каб ствол і першыя сукі былі больш крэпкія, дзеля гэтага трэба рабіць шрамаваньне кары як на ствале, так і на першых сукох дрэва. Шрамаваньне выяўляецца ў тым, што канцом вострага нажа праводзіцца па ствалу дрэва зьверху ўніз, а на галоўных сукох удоўж іх, шрамы, праразаючы кару да мяса (дзерава). Пасьля гэткага шрамаваньня, разрэзаная кара як-бы разсуваецца на абодвы бакі, а пасярод разрэзу знаходзіцца новая маладая кара, і гэткім парадкам дрэва хутка павялічываецца ў таўшчыню. Робячы так шрамоўку што год, мы ня толькі тутака павялічваем таўшчыню дрэва, але і зьмяніваем на дрэве тоўстую ацьвярдзеўшую кару, якая сьціскаець, як абручамі, дрэва і не даець яму магчымасьці таўсьцець. Бываюць выпадкі, што ствол разрастаецца неаднолькава: у вярху каля сукоў бываець таўсьцей, чым у камлі. Гэта бываець ад таго, што на танчэйшай часьці ствала кара надта агрубела і перашкаджаець ствалу нармальна расьці. У гэткім выпадку памагчы дрэву можна толькі шрамаваньнем кары.

Шрамаваньне кары можна рабіць толькі на дрэвах, якія ўжо добра прыжылі на новым мейсцы. Маладыя прышчэпы трэба пачынаць шрамаваць толькі на другі год, пасьля таго, як яны былі пасаджаны ў садзе. У першы год робіцца адзін шрам зьверху ўніз па ўсяму ствалу, на другі год можна правясьці два шрамы адзін насупроць другога (адзін з аднаго боку, другі з другога). Калі дрэва тоўстае, напрыклад вяршок-два, можна адразу правясьці шрамы два-тры. Ад шрамаваньня кары ня толькі дрэва таўсьцееець, але і павялічываецца яго ўраджайнасьць.

Шрамаваць кару найляпей рана вясной, як толькі дрэвы пачнуць распускацца, (але не раней гэтага), пазьніцца з шрамаваньнем ня трэба, бо да восені шрамы могуць добра не зажыць і як сьлецна зарубцавацца. Шрамаваць трэба толькі дрэвы гадоў да 25. На старых дрэвах шрамаваньне нічога не памагае або толькі шкодзіць. Праводзючы шрамы, трэба нож трымаць роўна, каб ён ня рэзаў у бок, а таксама трэба старацца разразаць толькі самую кару і ня раніць дзерава. Гэткае шрамаваньне робіцца толькі на яблынях і дулях.

Шрамаваньне кары добра рабіць каля усякіх ран, якія бываюць на дрэві ад марозу ці ад зайцоў і інш. прычын. У гэткім разе праводзяцца шрамы каля бакоў раны на здаровай карэ і адзін ззаду.

**Я. П.**





Друкарня Левін і Сын. Вільня, Нямецкая 22.